


СПАДАРОЖНІКАВАЕ! ● БТ, РТР, Астанкіна, НТБ С.-Пецярбург, Польшча-1, Польшча-2.

## ДУБІНАЙ ПА СЬПІНЕ!

За 9 месяцаў бягучага году гарадзенскім міліцыянтам выкарыстоўваць сілу даводзілася неаднойчы. Каля тысячы разоў выкарыстоўваліся гумовыя палкі, 288 разоў - газ, 59 - зброя...

ст. 3



## КРЫВАВЫЯ «ПАЦАЛУНКІ»

Вынік аварыі сумны - тры трупы...

Трагедыя на вуліцы Сухамбаева...

Усё часьцей становяцца на злачынны шлях студэнты гарадзенскага ўніверсітэту...

ст. 8






26-27 кастрычніка чакаецца пахмурнае з праясьненьнямі надвор'е. Без ападкаў. Вецер слабы. Тэмпература паветра ўначы -2 +3, удзень +8-13 градусаў.


# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА Ў 1920 Г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

№ 43 (190) • 25 — 31 кастрычніка 1996 г. • Кошт свабодны


## МІТЫНГ ПАТРАБАВАЎ АДСТАЎКІ ЛУКАШЭНКІ





**Раніцой 19 кастрычніка ў Менску можна было назіраць сапраўдны парад вайсковай тэхнікі: бранетранспарцёры, вадамёты, вайскоўцы з сабакамі, машыны ды аўтобусы, набітыя людзьмі ў вельмі сьпецыфічным для мірнага гораду абмундзіраваньні. У чарговы раз Прэзідэнт Лукашэнка падзяліў народ Беларусі на «сваіх» ды «чужых».**

Больш падрабязна пра падзеі 19 кастрычніка ў Менску чытайце на ст.2

## БАЦЮШКА ПАПЫРСКАЎ СЬВЯТОЙ ВАДОЮ ГАЗАВЫЯ ТРУБЫ

**23 кастрычніка ў Слонімскім раёне каля вёскі Азярніца былі звараны першыя трубы беларускай часткі новага газаправоду «Ямал-Заходняя Еўропа». Яны нямецкай вытворчасьці, маюць вялікі дыяметр - 1,4 м. Скончыць будоўлю плануецца да 2005 году, і тады расейскі газ пачнуць пампаваць у Нямеччыну. Паміж гэтай краінай і Польшчай трубы ўжо працягнутыя - над паверхняй ракі Одэр.**

У чыстым полі пад Азярніцай прызямліліся на верталётах паасобку кіраўнікі Газпраму і Беларусі Р.Вяхіраў і А.Лукашэнка. Пасьля агульных словаў пра «інтэграцыю і дружбу» на мітынгу яны спрэзентавалі будаўнікам букеты ў фальзе. Праўда, давялося пачакаць, пакуль рабочыя звараць трубы. Потым, паводле праваслаўнага абраду, першы кавалак газаправоду асьвяціў айцец Гаўрый.

Прадстаўнікоў незалежных mass media не падпусьцілі да месца падзей. Прывілей назіраць і слухаць «бацьку» зблізку атрымалі толькі «залежныя» журналісты. Можна было падумаць, што першыя мелі ў кішэні па бомбе... Інтэрв'ю прэзідэнт даў толькі афіцыйнаму тэлебачаньню. Лукашэнка гаварыў пра газ, крыху ганіў апазіцыю, якая «не разумее» карысьці газаправодаў. Маленькі Вяхіраў хітра пасьміхаўся побач, смокчучы цыгарку і пускаючы дым вертыкальна ў неба. Гэты сюжэт «БТ» паказала тройчы. Несалідна! Але што Вяхіраву нейкі Лукашэнка, калі доля Газпраму ў расейскай здабычы прыроднага газу роўная 94%, а ў сусьветнай - 28%. Гэта - монстр!

На жаль, але Лукашэнка нічога пэўнага не сказаў пра ўмовы, на якіх расейцы будуць перапампоўваць свой газ немцам. Палякі, тыя нарабілі шуму і дамагліся для сябе самых выгодных умоваў. А ў Лукашэнкі зноў на першым месцы не канкрэтная выгода для Беларусі, а «мір, дружба, жвачка».

**С.ЗАЙКО.**

## СХОД ГАРАДЗЕНСКІХ «АФГАНЦАЎ»

**21 кастрычніка адбыўся сход гарадзенскай асацыяцыі воінаў-інтэрнацыяналістаў.**

Перад прысутнымі з справаздачным дакладам выступіў старшыня гарадзенскіх «афганцаў» Аляксандр Вітко. Адначасова спадар Вітко кіруе абласной арганізацыяй ветэранаў Афганістана. З гэтай нагоды ўдзельнікі сходу абралі новага старшыню гарадзкой арганізацыі. Ім стаў Валеры Аутка. Таксама на сходзе быў зацьверджаны статут асацыяцыі.

## ПАСЛА МОЖА І НЯ БЫЦЬ

**Прадстаўнікі адной з уплывовых партый Польшчы «Унія вольнасьці» былі сьведкамі падзей у Менску 18-19 кастрычніка.**

На радзіме яны заявілі, што бачылі, як Лукашэнка рыхтаваўся ўжыць узброеную сілу супраць народу. У выпадку ўсталяваньня на Беларусі дыктатуры, «Унія вольнасьці» плануе прапанаваць ураду Польшчы не дасылаць у Менск новага пасла.

**Д.К.**

## ГАРАДЗЕНСКАЯ МІЛІЦЫЯ ТАКСАМА БЫЛА НАПАГАТОВЕ

Паводле «узмоцненага варыянту» несьлі службу ў дні правядзеньня прэзідэнцкага Усебеларускага сходу гарадзенскія міліцыянты. Павялічаныя меры перасьцярогі былі выкліканыя, па словах намесьніка начальніка УУС аблвыканкаму сп.Аўрамчыка, неабходнасьцю «быть готовыми к проявлению неожиданных для нас в эти дни событий, эмоциональных всплесков и т.д.».

Эмоцыі ў гарадзенцаў у гэтыя дні былі ў норме, а таму адзіным станоўчым вынікам «узмоцненага варыянту» можна лічыць толькі зьніжэньне ў гэтыя выходныя ў два разы колькасьці злачынстваў у параўнаньні са «звычайнымі» днямі. Дык ці ня варта, у такім выпадку, штодня працаваць «узмоцнена», а ня толькі тады, калі прэзідэнту становіцца страшна за сваё крэсла?

## «СЛУЖБЫ» СУСТРЭЛІСЯ З «ВОРГАНАМІ»

**22 кастрычніка ва Управе ўнутраных справаў аблвыканкаму адбылася сустрэча кіраўніцтва абласной міліцыі і Галоўнага ўпраўленьня Службы кантролю прэзідэнта па Гарадзенскай вобласьці.**

Як паведаміў «ПАГОНІ» намесьнік начальніка Службы кантролю Віктар Мажуга, на сустрэчы абмяркоўваліся пытаньні «узаемадзеяньня службаў па выяўленьні правапарушэньняў». Дагэтуль падобнае ўзаемадзеяньне «ня мела патрэбнага разьвіцьця, хоць колькасьць парушэньняў законаў застаецца вялікай».

Часам здараліся выпадкі, што ў тую ці іншую фірму спачатку з праверкай прыходзіла Служба кантролю, за ёй - міліцыя, за той -пракуратура і г.д.

Пытаньні падрыхтоўкі і правядзеньня рэферэндуму, па словах сп.Мажугі, на сустрэчы не абмяркоўваліся.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

## ХТО ЗЬЕЎ ЯЙКІ?

**З паліц Гарадзенскіх крамаў нечакана зьніклі яйкі. Гарадзенцы выказваюць некалькі версій гэтай зьявы. Першая - яйкі па дарозе ў крамы крадуць ворагі прэзідэнта. Другая - куры перасталі несьціся. Трэцяя - яйкі прадаюць у Расею.**

Каб даведацца, у чым справа, карэспандэнт «ПАГОНІ» зьвярнуўся на птушкафабрыку.

Намесьнік дырэктара па збыту Марыя Машко сказала, што сама не разумее, у чым справа. Па яе словах, фабрыка працуе стабільна, выпускае ў дзень 200 тысяч яек. Праўда, частку з іх вымушана абменьваць у Расеі на камбікармы. Але гэта не павінна зьменшыць колькасьць яек у Горадні. Летам у фабрыкі нават былі цяжкасьці ў збыце. А зараз чамусьці іх не хапае. На думку сп. Машко, гарадзенцы раптам сталі ўжываць больш яек, чым звычайна. Таму іх і няма.

Але загадчыцы крамаў сьцьвярджаюць, што птушкафабрыка не забясьпечвае выкананьне заявак. Гэта ж пацьвердзілі і ў аддзеле кантролю упраўленьня гандлю гарвыканкаму і паабяцалі ў бліжэйшыя дні высьветліць, чаму зьніклі яйкі.

**Д.К.**

## «НАЛЕТАЙ! ПОДЕШЕВЕЛО!..»

**13 лістапада 1996 году ў 11 гадзін у вялікай зале ДК «Белсаўпрофу» Менскдзяржмаёмасьць сумесна з Міжнароднай фінансавай карпарацыяй праводзяць юбілейны 100-ы аўкцыён у межах праекту «Малая прыватызацыя ў Беларусі». Перад аўкцыёнам адбудзецца прэс-канферэнцыя з удзелам прадстаўнікоў Міндзяржмаёмасьці і МФК.**

Да продажу на юбілейным аўкцыёне прапануецца 11 аб'ектаў. Сярод іх -7 дзейных крамаў у розных раёнах гораду, 3 пральні і швачнае атэлье «Вільнюс».

Для прадпрымальнікаў і прыватных кампаній, якія прымуць удзел у аўкцыёне, набыцьцё на ім прадпрыемства, якое прыватызуецца, стане ўнікальнай магчымасьцю разгарнуць свой новы бізнэс на старым месцы. Стартавыя кошты выстаўленых на продаж крамаў адносна невялікія. Таргі па хлебнай краме на бульвары Шаўчэнкі пачнуцца з 11 мільёнаў рублёў. На 60% зьніжаны пачатковыя кошты прадуктовых крамаў па вул.Каліноўскага і Карастаянавай, якія ўжо выстаўляліся на аўкцыён і не былі прададзены. Дастаткова прывабнымі лотамі патэнцыйныя пакупнікі палічаць і прадуктовую краму па вул.Гікалы, разьмешчаную па суседзтву з Белдзяржуніверсітэтам інфарматыкі і радыёэлектронікі, насупраць комплексу «Гасьцінны надворак». А таксама прадуктовыя крамы на вул.Маўра і вул.Славінскага, крама гародніны па вул.Убарэвіча.

Дадаткова інфармацыю можна атрымаць у аддзеле аўкцыйна-конкурснага продажу Менскага гарадзкога камітэту па кіраваньні Дзяржаўнай маёмасьцю і прыватызацыі па тэлефоне 220-66-24.

## АБ ЗАПЛАНАВАНЫМ У БЕЛАРУСІ РЭФЕРЭНДУМЕ

### ЗАЯВА ПРЭС-САКРАТАРА ДЗЯРЖДЭПАРТАМАНТУ ЗША НІКАЛАСА БЕРНСА

Напрацягу 5 гадоў з дня абвешчаньня Беларусьсю незалежнасьці, Злучаныя Штаты пастаянна імкнуцца да плённых і сяброўскіх адносінаў з ейным урадам. ЗША хочуць бачыць дэмакратычную Беларусь, якая ідзе шляхам рынкавых рэформаў. Гэтыя пераўтварэньні неабходныя для аблягчэньня Беларусі інтэграцыі ў палітычнае і эканамічнае жыцьцё сучаснай Еўропы і атрыманьне максімальнай выгады з міжнароднага гандлю і інвестыцыяў.

З абвешчаньнем незалежнасьці Беларусьсю былі зроблены акрэсьленыя крокі на шляху дэмакратызацыі. Гэты працэс, аднак, знаходзіцца зараз пад пагрозай. Беларускаму народу прапануецца стаць на нечы бок у супрацьстаяньні прэзідэнта і парламанту па пытаньні аб рэферэндуме, аб унясеньні далёка ідучых зьменаў у Канстытуцыі. У прапанаваным праекце Канстытуцыі не прадугледжваецца падзел уладаў, абарона свабоды асобы і першынства Закону.

На жаль, заявіўшы аб сваім нежаданьні працаваць далей з парламантам, прэзідэнт Лукашэнка становіцца на шлях далейшага расколу краіны. Мы зьвяртаемся да прэзідэнта Лукашэнкі з заклікам неадкладна пачаць кансультацыі з кіраўніцтвам парламанту з мэтай пошуку кампрамісу, які забясьпечыць захаваньне ў краіне найважнейшых правоў чалавека, нормаў дэмакратыі і асноўных свабодаў.

**17 кастрычніка 1996 году**

**Паласа падрыхтаваная паводле паведамленьняў нашых карэспандэнтаў і агенцтва БЕЛАПАН.**

## ДЗЯЦЕЙ НЯ ВЕРНЕШ

**22 кастрычніка ў Лідзе была абвешчаная агульнагарадзкая жалоба.**

У выніку няшчаснага выпадку загінула трое шасьцікласьнікаў. Яшчэ адзін падлетак знаходзіцца ў рэанімацыі. Па папярэдніх зьвестках, дзеці гулялі ў траншэі, якая па волі камунальных службаў каля году "ўпрыгожвае" горад. Падлеткі рабілі падкоп у сьценцы траншэі і былі засыпаныя зямлёй. Адшукаць іх удалося толькі з дапамогай сабакі. Паводле факту здарэньня ўзбуджана крымінальная справа.

## СУД ВЫНЕС ВЫРАК

**У мінулым нумары «ПАГОНЯ» паведамляла аб судовай справе над чатырма сутэнёрамі, якую разглядаў суд Кастрычніцкага раёну Горадні. На гэтым тыдні быў вынесены вырак.**

Усе падсудныя прызнаны вінаватымі. Вячаслава Л. прыгаварылі да 2 гадоў 6 месяцаў умоўнага зьняволеньня з абавязковым прыцягненьнем да працы. У народзе гэта называецца «хіміяй». Сяргей К. таксама будзе «хімікам», але 2 гады.

Дзяўчат прыгаварылі да ўмоўнага зьняволеньня: Тацьцяну К. да 2 гадоў 6 месяцаў, Алу А. да 2 гадоў.

## ДЗЯРУЦЬ НАШЫЯ ГРОШЫ БЯЗБОЖНА

**Пасьля таго, як у мінулым нумары «ПАГОНЯ» надрукавала інфармацыю пра тое, як за стаянку на ўзбочыне Індурскай шашы бяруць 10 тыс.рублёў, чытачы паведамілі і пра іншыя выпадкі бессаромнага выманьваньня грошай.**

Так, каля Цэнтральнага рынку ў Горадні ўсе пад'езды заблаканавы забараняльнымі знакамі, якія, аднак, дазваляюць за грошы (зноў-такі 10 тысяч) прыткнуць сваю машыну на вуліцах Лідзкай, Падольнай і інш. Людзі абураюцца: за ўдвая меншую суму платныя стаянкі забясьпечваюць сапраўдную ахову аўтамабіляў. Аўтару гэтых радкоў адзін аўтааматар прапанаваў правесьці журналісцкі эксперымент - зьехаць са «стаянкі», а потым запытаць зборшчыка грошай, дзе падзеўся аўтамабіль. Пакуль што мы вырашылі адкласьці эксперымент і паглядзець на рэакцыю ДАІ і гарадзкой улады.

## НАШЫМ РЭКЛАМАДАЎЦАМ ШАНЦУЕ!

Дырэктар гарадзенскай вытворча-камерцыйнай фірмы «Яхант» стаў адным з пераможцаў латарэі газеты «Аргументы і факты». Паводле свайго падпіснога квітка на «АіФ» на другое паўгоддзе ён выйграў відэаплэер «Панасонік».

Віншуем сталага рэкламадаўцу «ПАГОНІ»!

**Ул.Інф.**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## СУПРАЦЬ ДЫКТАТУРЫ

**18 кастрычніка ў Менску прайшоў Нацыянальны кангрэс у абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры. У ім узялі ўдзел каля 1500 дэлегатаў.**

Распачаў кангрэс сваім выступам старшыня аргкамітэту Юры Захаранка. Ён зачытаў дакладную запіску на імя намесьніка камандуючага начальніка апаратыўнай баявой падрыхтоўкі ўнутраных войскаў Беларусі за подпісам начальніка баявой падрыхтоўкі корпусу аховы палкоўніка А.Шкута. У ёй паведамлялася, што супраць тых, хто прыйдзе на мітынг 19 кастрычніка, будуць выстаўлены дзесяткі снайпераў і сотні аўтаматчыкаў, 73 аўчаркі, 18 верталётаў, дзесяткі БТРаў з баекамплектамі, адмысловымі газапаралізуючымі сродкамі. На кангрэсе была прынятая рэзалюцыя з рэзкім асуджэньнем такога стаўленьня ўладаў да свайго народу.

Наступным удзельнікаў кангэсу вітаў Янка Брыль. «Шляхам афіцыйнай ілжы, дарагоўлі, галечы ўстанаўліваецца прывід дыктатуры» - заявіў народны пісьменьнік Беларусі.

На стане эканамічнай сітуацыі ў дзяржаве сканцэнтраваў свой выступ віцэ-сьпікер беларускага парламанту Генадзь Карпенка. «За час прэзідэнцкага праўленьня зьнішчана 28 працэнтаў беларускай прамысловасьці, амаль кожны калгас мае пазыку ня менш 2,4 млрд. руб., даходы больш чым аднаго мільёна грамадзянаў Беларусі ўдвая ніжэй за пражытачны мінімум.» Сенсацыйным стала паведамленьне віцэ-сьпікера пра тое, што з 20 млн. даляраў крэдыту, які дадзены Беларусі Турцыяй, большая частка сродкаў па рашэньні выканаўчай улады пойдзе на будаўніцтва катэджаў, бараў ды казіно. Г.Карпенка заклікаў усе дэмакратычныя сілы Беларусі « адкінуць амбіцыі і не паўтарыць той памылкі, у выніку якой да ўлады прыйшоў чалавек, які па сваіх маральных ды прафесійных якасьцях ня мае права ўзначальваць рэспубліку».

Старшыня парламанцкай камісіі па міжнародных справах Пётр Краўчанка расказаў пра рэакцыю на сітуацыю ў Беларусі дзеячоў розных краінаў. Ён азнаёміў прысутных з высновамі трох буйнейшых прафесароў юрыспрудэнцыі Еўропы, якія падверглі крытыцы праект зьмяненьняў і дапаўненьняў у Канстытуцыю, прапанаваны А.Лукашэнкам.

Становішчу з захаваньнем правоў чалавека ў Беларусі быў прысьвечаны выступ прафесара, намесьніка старшыні Беларускага Народнага Фронту Юрыя Хадыкі, які вясной 25 дзён правёў за кратамі.

На кангрэсе таксама выступілі віцэпрэзідэнт Саюзу прадпрымальнікаў Аляксандр Патупа, экс-сьпікер Мечыслаў Грыб, вядовы юрыст Антон Матусевіч, рэжысёр Віктар Дашук і шмат іншых.

Была створана грамадзкая камісія па расьследаваньні злачынстваў правячага рэжыму супраць Канстытуцыі і народу.

Удзельнікі кангрэсу ў сваёй рэзалюцыі адзначылі, што галоўнай крыніцай напружанасьці і супроцьстаяньня ў краіне ёсьць прэзідэнт А.Лукашэнка. Яны падтрымалі ініцыятыву «круглага стала» партый і рухаў Беларусі на законнае адлучэньне ад улады А.Лукашэнкі.

## МІТЫНГ ПАТРАБАВАЎ АДСТАЎКІ ЛУКАШЭНКІ

**Каля 30 тыс. чалавек пад бел-чырвона-белымі сьцягамі прайшлі ад пл.Якуба Коласа да будынку Опернага тэатру, дзе на пл.Парыжскай камуны адбыўся мітынг.**

Былы міністр унутраных справаў рэспублікі Юрый Захаранка праінфармаваў удзельнікаў мітынгу аб прайшоўшым 18 кастрычніка ў Мінску Нацыянальным кангрэсе ў абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры, які падтрымаў намеры па законным адхіленьні прэзідэнта ад улады, стварыў грамадзкую камісію па расьследаваньні злачынстваў існуючага рэжыму, стварыў грамадзкую камісію па кантролі за правядзеньнем рэферэндуму і грамадзкі эканамічны савет па распрацоўцы праграмы выйсьця эканомікі з крызісу.

Віцэ-сьпікер парламанту Генадзь Карпенка заявіў на мітынгу, што механізм працы цяперашняй выканаўчай улады — гэта хлусьня, рэферэндум патрэбен ёй для таго, каб «скрыць сваю непрацаздольнасць». «Злодзеі дабраліся да вышэйшай эканомікі нашай дзяржавы», — лічыць Г.Карпенка. На думку другога парламантарыя, лідара Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслава Багданкевіча, прэзідэнцкі рэферэндум накіраваны на «замацаваньне злачыннай клікі». Ён заклікаў удзельнікаў мітынгу адкрыта выступіць супраць існуючага рэжыму.

Выконваючы абавязкі старшыні Беларускага Народнага Фронту Лявон Баршчэўскі заявіў: «Калі гэты сход (маецца на увазе Усебеларускі народны сход, будзе прымаць антыканстытуцыйныя рашэньні, дык яны павінны ведаць: «як ні хавалі спісы яго ўдзельнікаў, яны ў нас ёсьць, і кожны рана ці позна адкажа за парушэньне закону». Л.Баршчэўскі зачытаў таксама прывітанне да ўдзельнікаў мітынгу, дасланае з Нью-Йорка ад Зянона Пазняка і Сяргея Навумчыка, якія атрымалі нядаўна палітычнае прыстанішча ў ЗША.

Валянцін Голубеў заявіў, што ў рэспубліцы адбываецца сьвядомы антыканстытуцыйны і антыдзяржаўны пераварот. Лідар Беларускай партыі працы Аляксандр Бухвостаў паведаміў на мітынгу, што дзьве трэці жыхароў рэспублікі жывуць сёньня ва ўмовах, блізкіх да галечы. Па яго словах, «прэзідэнт стаў асноўным уласнікам і працадаўцам».

Настаўніца з Салігорска Марыя Мацюкевіч і старшыня незалежнага прафсаюзу аднаго з рудаупраўленьняў аб'ядналньня «Беларуськалій» Валерый Гарбацэвіч праінфармавалі аб тым, як праходзіў марш у абарону сацыяльна-эканамічных правоў працоўных, які быў распачаты з Салігорска 16 кастрычніка. Удзельнікаў маршу чатыры разы затрымлівалі нарады міліцыі, а з ліку дабраўшыся да Менску на момант правядзеньня мітынгу трое ўтрымліваліся пад вартай у адным з раённых аддзелаў сталічнай міліцыі.

Найбольш яркім выступленьнем на мітынгу стала прамова малавядомага дагэтуль ветэрана вайны ў Афганістане палкоўніка Уладзіміра Барадача. Ён, у прыватнасьці, заявіў, што зараз краіну можа выратаваць толькі калектыўны розум. «Мы аддаем перавагу выбару Вярхоўнага Савету, які стаіць на баку законнасьці і Канстытуцыі... Прэзідэнт паставіў сябе над законам, у выніку чаго ўвёў краіну ў эканамічны і палітычны крызіс... Канструктыўныя рашэньні ён прымаць ня здольны... Мы, грамадзяне Беларусі, хочам жыць у краіне, дзе гаспадар — не пахан, а закон». У.Барадач зьвярнуўся да тых, «хто разлічвае на грубую сілу і кулямёты: той, хто загадае прымяніць сілу супраць нашага народу, той закончыць сьценкай».

Намесьнік старшыні БНФ Юрый Хадыка зачытаў рашэньні Нацыянальнага кангрэсу ў падтрымку Канстытуцыі супраць дыктатуры, якія аднагалосна падтрымалі і ўдзельнікі мітынгу. Пад час мітынгу праходзіў збор добраахвотных узносаў на падтрымку барацьбы з рэжымам, у прыватнасці, на падрыхтоўку наступных акцый пратэсту.

Пад час правядзеньня шэсьця ды мітынгу ніякіх сутычак ды інцыдэнтаў не было. Між тым у раёне вул.Старажоўскай і прылягаючай да яе набярэжнай ракі Свіслач знаходзіліся 18 аўтобусаў з супрацоўнікамі міліцыі, узброенымі сьпецсродкамі, таксама 11 пустых самазвалаў, якія маглі быць скарыстанымя для блакаваньня вуліцаў. На тэрыторыі галоўнай ваеннай камендатуры ў гатоўнасьці знаходзіліся чатыры бронетранспарцёры, а побач у скверы 35 грузавікоў, запоўненых сьпецназаўцамі з аўтаматамі. Пасьля заканчэньня мітынгу частка яго ўдзельнікаў (некалькі тысячаў чалавек) накіравалася да палацу Спорту сустрэцца з «новымі» абраньнікамі народу. Ля маста за Траецкім прадмесьцем каля 1000 супрацоўнікаў міліцыі ланцугом перакрылі ўсе падыходы да Палацу Спорту. Пастаяўшы каля дзьвюх гадзінаў у раёне пляцу Волі ды павітаўшы ўдзельнікаў усебеларускага сходу сьвістам ды словамі кшталту «Вы не народныя, вы Лукашэнкавы» усе мірна разышліся. Усе, акрамя міліцыянтаў, якія так і засталіся шматкіламятровым жывым ланцугом ахоўваць абраньнікаў народу.

**Л.Валынец.**




## «КРЫВАВЫ ПУТЧ... ПРАВАЛІЎСЯ»

**У пасланьні Зянона Пазьняка перададзеным у «ПАГОНЮ» са Злучаных Штатаў, гаворыцца:** «Мірны мітынг пратэсту, які прайшоў у Менску 19 кастрычніка, ёсьць псіхалагічная перамога над сіламі дыктатуры і акупацыі. Тое, што злачынныя і вар'яцкія задумкі Лукашэнкі прымяніць зброю супраць людзей... былі выяўлены і апублікаваны ў дэмакратычным друку, тое, што яны напярэдадні сталі вядомыя беларускай і сусьветнай грамадзкасьці, — усё гэта вымусіла хунту ўстрымацца ад сваіх планаў, ад прамога прымяненьня сілы, бо тыя, хто планаваў пабоішча, зразумелі, што цяпер зваліць віну на дэманстрантаў ня ўдасца нават фармальна... Можна з упэўненасцю сказаць, што крывавы путч, які Лукашэнка рыхтаваў разам з расейскім генералам Лебедзем, праваліўся».

## ХАЛУЙСТВА, ЯК ВЫШЭЙШАЯ ПРАЯВА БЕЛАРУСКАЙ ПАМЯРКОЎНАСЬЦІ

*«Они - народ, потерявший рассудок и нет в них смысла».*
**(З прамовы мітрапаліта Філарэта на Усебеларускім народным сходзе)**

**Калісьці на Навагradзкае ці Полацкае веча, з якімі так любяць параўноўваць свой сход Замяталін і К, дапускаліся «людзі лепшыя», якія былі эканамічна, фізічна і юрыдычна незалежнымі. Гэтая незалежнасьць абумоўлівала і незалежнасьць голасу і думкі кожнага.**

**Безумоўна, які-небудзь крыкун «льстивыми речами» мог задурыць галаву ўсяму вечу і завесьці не туды, але тады вінаваціць кожны мог толькі «скудность ума своего», але ня ўбоства права і свабоды.**

Зусім іначай выглядае справа з лукашэнкаўскім сходам. Гэта быў сход ня вольных людзей, а сход «чэлядзі», халопаў «государевых». Абсалютная большасьць дэлегатаў, нават і тыя, што галасавалі супраць ці ўстрымаліся, знаходзіцца ў залежнасьці ад галоўнага сюзерэна нашай краіны. Абласныя вертыкальныя наўпрост залежаць ад прэзідэнта, раённыя ад абласных. Кіраўнікі прадпрыемстваў залежаць і ад вертыкалі і ад міністраў. Начальнік цэха - ад дырэктара заводу, рабы - ад усіх. Кожны залежыць ад вышэйшага і адказвае за ніжэйшых, прычым адказвае жорстка. Адкрытае галасаваньне змушае падначаленага, асабліва, калі падначалены - памяркоўны беларус, рабіць і галасаваць так, як хоча начальнік. Магчыма, левай рукой ён і згарнуў дулю ў кішэні і пры таемным галасаваньні намаляваў бы тую дулю на бюлетэні, але ў адкрытую ён цягне правую руку за начальнікам. Страх, залежнасьць, памяркоўнасьць? Што канкрэтна рухае чалавекам? Усё разам. А ўсё разам гэта і ёсьць звычайнае халопства. Халопства з ідэалагічнай падкладкай - гэта халуйства. Таму гэты сход нельга называць ня тое што вечам, ці хоць якой радай - гэта расстаноўка халопаў па нумарах перад абложным паляваньнем на дэмакратыю.

Калісьці ў сярэднявеччы пры дварах усялякіх там Валуа, Сьцюартаў ці Радзівілаў гэтай самай дэмакратыі было значна болей, чым на прайшоўшым сходзе. Пры дварах сярэднявечча, прынамсі, хоць блазен мог казаць праўду. На сходцы 19-20 кастрычніка з усёй Беларусі не знайшлося нават блазна. З 4990 удзельнікаў там аказалася толькі 58 дэлегатаў, якія прагаласавалі супраць дыктатуры ці ўстрымаліся. Астатнія - адабранцы.

Дзеля чаго іх там зьбіралі, яны толкам і самі ня ведаюць. Аднак грошай народных за 2 дні яны «прафукалі» нямала. Па самых мінімальных падліках, на кожнага (праезд, харчаваньне, жыльлё, арэнда Палаца, ахова, камандыровачныя, канцэрт, падарункі) пайшло ня менш чым 6 мільёнаў рублёў. Мала хто з беларусаў і за паўгады столькі зарабляе.

**Станіслаў СУДНІК.**

## ВЫМУШАНАЯ- ЎСТУПКА ЗАКОНУ

Сваё тэлевізійнае ўражаньне ад Усебеларускага сходу выказаў сакратар Віцебскага абкаму ПКБ Генадзь Хобатаў. Лідар камуністаў вобласьці заўважыў: «Мы бачылі, кім і як рыхтавалася гэтая масоўка. Выкінутыя грошы. Раскол у грамадзтве паглыбляецца. І ад рэферэндуму таксама ні адзінства, ні міру чакаць не даводзіцца. Што ж да пераносу яго даты, то гэта толькі вымушаная ўступка закону, а ня акт палітычнай мудрасьці».

## НАРОДНЫ ФРОНТ ГЛЯДЗІЦЬ НАПЕРАД

**21 кастрычніка ў штаб-кватаэры БНФ адбылася прэс-канферэнцыя кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту, прысьвечаная падзеям апошніх дзён у Мінску.**

Гаворачы аб галоўнай сенсацыі Усебеларускага народнага сходу — згодзе на перанос даты правядзеньня рэферэндуму з 7 на 24 лістапада, выконваючы абавязкі старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі адзначыў: перанос даты для Лукашэнкі «не такая ўжо прынцыповая рэч, галоўным для яго зьяўляецца перамога на рэферэндуме любой цаной. Для гэтага прадпрымаецца масавая апрацоўка грамадзкай думкі ў СМІ», не выключаецца, на яго думку, і фальсіфікацыя вынікаў рэферэндуму.

Л.Баршчэускі прывёў некаторыя факты, якія пацьвярджаюць гэтыя апасеньні: у адным з мікрараёнаў Менску пад выглядам удакладненьня сьпісаў выбаршчыкаў зьбіраліся подпісы ў пратаколах выбарчых камісій у графе «выдача бюлетэняў». Гэтая інфармацыя паступіла ад дэпутата Вярхоунага Савету Івана Цярэшкі.

«Асноўная колькасьць фальсіфікацый, — працягваў Л.Баршчэўскі, — дасьць магчымасьць галасаваць праз пераносныя урны. Вярхоўны Савет наўрад ці зможа пераадолець вета, накладзенае на прынятую нядаўна папраўку да закону «Аб выбарах», якая адмяняе працэдуру такога галасаваньня».

«У гэтых умовах для ўсіх арганізацый БНФ, — падкрэсьліў Л.Баршчэўскі, —галоўнай задачай зьяўляецца кантроль за правядзеньнем рэферэндуму. Павінен сказаць сваё слова і Канстытуцыйны суд».

Гаворачы аб шэсьці і мітынгу 19 кастрычніка, Л.Баршчэускі адзначыў беспрэцэдэнтнасьць захадаў, зробленых уладамі для таго, каб яны не адбыліся. Паводле яго зьвестак, у некаторых сярэдніх школах і тэхнікумах Менску былі зачынены дзьверы і вучняў пасьля ўрокаў не выпускалі, а ў асобных ВНУ першыя заняткі былі перанесены на абедзенны час. Кіраўнікі БНФ прызналі, што некаторых людзей адпудзілі тыя прагнозы, якімі былі поўныя СМІ у апошнія «перадмітынговыя» дні. «Наша ўпэўненасьць у тым, што ніякіх сутычак ня будзе, была стопрацэнтнай», — сказау Л.Баршчэускі. — Быу падрыхтаваны запасны маршрут руху калоны, парадак падтрымлівалі больш чым 200 дружыньнікаў БНФ. Яны спынілі некалькі спроб правакацый у калоне і перадалі парушальнікаў парадку міліцыі.

Кіраўніцтва БНФ заявіла, што Народны Фронт і надалей не адмовіцца ад правядзеньня вулічных акцый, бліжэйшая з якіх прызначана на Дзяды 2 лістапада.

## АГРАРНІКІ НЕ «РАСКАЛЫВАЮЦЦА»

**Кіраўніцтва гарадзенскага абласнога Савету Аграрнай партыі лічыць немагчымым надалей падтрымліваць сацыяльна-эканамічны і ўнутрыпалітычны курс Аляксандра Лукашэнкі.**

У прынятай нядаўна заяве абласнога Савету Аграрнай партыі адзначаецца, што становішча ў эканоміцы застаецца крытычным. На 1 жніўня больш дзьвюх тысячаў прамысловых прадпрыемстваў былі стратнымі. На складах заляжалася непрададзенай прадукцыі на 11 трыльёнаў рублёў. Запазыкі калгасаў і саўгасаў перавысілі 6 трыльёнаў (па 2,4 млрд. сярэднім на кожную гаспадарку).

Рэзка адмоўная ацэнка дадзена ў заяве і прэзідэнцкаму рэферэндуму. Яго правядзеньне, на думку аграрнікаў, сьведчаць аб «імкненьні... стварыць у цэнтры Эўропы таталітарную дзяржаву і ўсталяваць дыктатуру асабістай улады».

Абласны савет АП выказаў таксама падтрымку кіраўніцтву партыі, а таксама ўпэўненасьць у «марнасьці ... каляпрэзідэнцкага акружэньня раскалоць» яе.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

# ГРАМАДЗТВА

## "У НАШАЙ КРАІНЫ МОЖА БЫЦЬ ШЧАСЬЛІВАЯ БУДУЧЫНЯ!"

**26 кастрычніка спаўняецца 10 гадоў з дня адкрыцьця школы N 26 у Горадні. Адміністрацыя школы рыхтуецца зрабіць у гэты дзень сапраўднае школьнае сьвята.**

**Напярэдадні ўрачыстай падзеі наш карэспандэнт сустрэўся з дырэктарам школы спадаром Шаўцовым.**

***- Спадар Шаўцоў, у чым адметнасьць вашай школы?***

- Першая адметнасьць у колькасьці вучняў. Ужо з першага году школа выйшла на максімальную загрузку. А праз тры гады ў нас вучылася 3200 дзяцей, гэта была адна з найбуйнейшых школ рэспублікі. Зараз вучняў каля 2000, але ўсё роўна, школа працуе з перагрузкай амаль у два разы. Другая адметнасьць у тым, што 8 гадоў таму мы ўзялі накірунак на стварэньне нацыянальнай школы. І на працягу гэтага часу педагагічны калектыў, вучні і бацькі працавалі разам, каб стварыць сапраўдную беларускую школу.

***- Але зараз кіраўніцтва дзяржавы ідзе зусім іншым накірункам.***

- Сапраўды, пасьля мінулагодняга рэферэндуму ў беларускіх школах зьявіліся пэўныя цяжкасьці. Дзяржава перастала клапаціцца аб разьвіцьці нацыянальнай адукацыі. Многія бацькі ня бачаць перспектывы разьвіцьця беларускасьці ў грамадзтве. І тыя, каму невядома паняцьце патрыятызму, імкнуцца аддаць сваіх дзяцей у расейскія класы.

Педагагічны калектыў нашай школы і я, як дырэктар, ведаем, што ў нашай краіны можа быць шчасьлівая будучыня, калі мы сфармуем сапраўднага чалавека. Чалавека, які будзе паважаць сябе, любіць і ведаць свае карані. Такі чалавек будзе працаваць на карысьць Радзімы. Бяз гэтага мы вечна будзем у крызісе. У нас заўсёды будуць праблемы, ня толькі эканамічныя, але і палітычныя. На жаль, гэта не адпавядае разуменьню кіраўнікоў нашай дзяржавы. У нашай школе тыя вучні, якія вучыліся па-беларуску раней, не перайшлі на расейскую мову. З першымі класамі ёсьць цяжкасьці. З чатырох - два расейскамоўныя.

***- Давайце аб прыемным. Як вы зьбіраецеся адзначаць юбілей?***

- Мы вырашылі гэты дзень зрабіць сьвяточным і для дзяцей, і для бацькоў. Пачнем у 10 гадзін з урачыстай лінейкі на стадыёне. Пасьля правядзем спартыўнае прадстаўленьне, мастацкія выступленьні парашутыстаў гарадзенскага парашутнага клубу, запуск паветранага шара з рэкламай школы.

А 14-й гадзіне ў памяшканьні школы пачнуць працаваць забаўляльныя цэнтры для бацькоў і вучняў. Затым у актавай зале адбудзецца канцэрт, які мы ладзім сваімі сіламі, сустрэча з нашымі ветэранамі. З калектыву 11 чалавек пайшло на пенсію. Галоўнае, каб было добрае надвор'е. Запрашаем на сьвята гарадзенцаў.

**Гутарыў Дз.КІСЕЛЬ.**




## СЯРЭДНЯВЕЧЧА

«Там біскуп сёньня асьвячае новы храм...», - сьпявае Віктар Шалкевіч у песьні «Сярэднявечча». Новы касьцёл на Міхала асьвяцілі ў вёсцы Скрундзі Дзятлаўскага раёну. Паднялся ён на фундаманьце касьцёла, што, перастаяўшы вайну, быў разламаны бальшавікамі. Людзі ізноў пачулі Божае слова на сваёй зямлі. І своечасова. Фашысцкае сярэднявечча насоўваецца на наш край. Магчыма гэты касьцёл будзе хутка для іх адзіным і апошнім духоўным апірышчам у краіне хлусьні і дэмагогіі.

## ...І ТЫСЯЧУ РАЗОЎ ДУБІНАЙ ПА СЬПІНЕ!

**Кожнае другое злачынства на Гарадзеншчыне зьдзяйсьняюць беспрацоўныя. Такое рэкорднае для вобласьці «дасягненьне» зафіксавала сёлета міліцэйская статыстыка. На думку намесьніка начальніка Управы ўнутраных справаў аблвыканкаму сп.Валерыя Аўрамчыка, без паляпшэньня сацыяльнага і эканамічнага становішча ў краіне рост злачыннасьці спыніць немагчыма.**



Чарговая прэс-канферэнцыя для журналістаў, якую ладзіла УУС аблвыканкаму, пачалася з аўтаматных чэргаў, выбухаў ды захопаў узброеных злачынцаў - гарадзенскі АМАП, на базе якога адбывалася сустрэча, дэманстраваў свае сілы і здольнасьці. На практыцы гарадзенскім міліцыянтам за 9 месяцаў бягучага году выкарыстоўваць сілу прыходзілася не аднойчы. Каля тысячы разоў для ўтаймаваньня правапарушальнікаў выкарыстоўваліся гумовыя палкі, 288 разоў - газ, 59 - зброя. Наколькі з сіламі міліцыі лічацца злачынцы - сказаць цяжка, бо лічбы на прэс-канферэнцыі называліся супярэчныя. З аднаго боку, колькасьць злачынстваў за дзевяць месяцаў 1996 году, у параўнаньні з адпаведным перыядам мінулага году, зьменшылася на 9%. Менш зарэгістравана забойстваў (71 супраць 85 у мінулым годзе), згвалтаваньняў (24 супраць 45). З іншага боку, у абласным цэнтры пры зьніжэньні агульнай колькасьці злачынстваў за гэтыя месяцы забілі на 5 чалавек (17) больш, чым летась. У 5 разоў павялічылася колькасьць ашуканстваў, у 1,5 раза - выкраданьне транспарту. Кожнае трэцяе злачынства зьдзяйсьняюць жанчыны і падлеткі. Часам у лік злачынцаў трапляюць і самі міліцыянты. 7 супрацоўнікаў «ворганаў» у гэтым годзе ўжо былі асуджаныя. Вядзецца сьледзтва і яшчэ па некалькім супрацоўнікам. Для выяўленьня такіх людзей ва Управе ўнутраных справаў створана і працуе служба ўласнай бясьпекі.

І яшчэ некалькі лічбаў, прагучаўшых у выступе сп.Аўрамчыка, ня могуць не трывожыць. Сёлета на Гарадзеншчыне загінула рэкордная за ўсе часы колькасьць людзей - 1032 чалавекі. За ўвесь мінулы год было 852 сьмерці. Пры гэтым па ўласнай волі з жыцьця пайшло людзей больш (311), чым загінула ад рук злачынцаў (199). Сярод самазабойцаў з кожным годам расьце колькасьць пенсіянераў і моладзі - тых, пра каго любая цывілізаваная краіна клапоціцца найбольш.

**Вітаўт РУДНІК.**

**На здымку: Да бою гатовыя! З кім?**

## ЗЬНІК КАЛГАС

За дзевяць месяцаў у гаспадарках Ашмянскага раёну на 2229 галоў зьменшыўся статак буйной рагатай жывёлы ў параўнаньні з адпаведным перыядам летась. Гэта раўназначна зьнікненьню з мапы раёну цэлага калгасу. Трэба адзначыць, што 277 галоў проста здохла, у тым ліку ў калгасе імя Багушэвіча - 54, у калгасе «Прыгранічны» - 55, у калгасе імя Крупскай - 34.

## МЯЖА І ЛЮДЗІ

Беларускія памежнікі завяршылі аперацыю «Рубеж-96», накіраваную на ўзмацненьне мяжы і, у прыватнасьці, з Летувой. З 20 верасьня па 7 кастрычніка на тэрыторыі Ашмянскага раёну затрымана 26 парушальнікаў. У асноўным гэта грамадзяне Летувы. Трапляюць калі-некалі і беларусы. На гэтым фоне арыгінальнасьцю адрозьніваюцца паводзіны мясцовага насельніцтва. Як ні дзіўна, людзі дапамагаюць не памежнікам, а парушальнікам, падказваючы ім месцазнаходжаньне дазораў і пераходзячы на ўласных падворках.

## СЬВЯТА БЕЛАРУСКАЙ ПЕСЬНІ Ў ЛЕТУВЕ

У вольнай Летуве вольна гучыць беларуская песьня. Па ініцыятыве Шальчынінкайскага беларускага культурнага цэнтру тут адбылося сьвята беларускай песьні. Аргкамітэт па яго праведзяньні ўзначаліў заслужаны артыст краіны Лявон Мурашка. Ахвотнікаў да ўдзелу было так шмат, што аргкамітэт мусіў выбіраць калектывы і ў першую чаргу з бліжэйшых мясьцін. Але былі аматары песьні і з Вільні, і з Друскенінкая, і Вісагіласа. Удала выступаў ансамбль з вёскі Акмянінэ. Гасьцямі сьвята былі беларускі амбасадар Я.Вайтовіч і мэр Шальчынінкая Ю.Рыбак.

**Усяслаў ВОЙНІЧ.**

## АЛКАШЫ, УЗДЫХНІЦЕ З ПАЛЁГКАЙ

**Пад пагрозай закрыцьця знаходзіцца адзіны ў вобласьці лячэбна-працоўны прафілакторый (ЛПП), які месьціцца ў Навагрудку. На яго базе плануецца стварыць новую калонію, што дазволіць хоць крыху разгрузіць іншыя аналагічныя ўстановы, перапоўненыя звыш усялякіх нормаў.**

Супраць ліквідацыі ЛПП выступае кіраўніцтва Управы ўнутраных справаў аблвыканкаму, якое лічыць, што гэта выкліча рост колькасьці правапарушэньняў, асабліва ў сямейна-бытавой сфэры. За 9 месяцаў бягучага году палова з 2 655 выяўленых злачынцаў парушала закон нападпітку.

**Вітаўт РУДНІК.**

## «Я ДОСТАЮ ИЗ ШИРОКИХ ШТАНИН...»

**Да канца гэтага тыдня ў Горадні павінны былі прывезьці першую партыю новых беларускіх («прэзідэнцкіх») пашпартоў.**

Паводле словаў начальніка пашпартна-візавай службы УУС аблвыканкаму Мікалая Якубовіча, ужо створанае бюро па пашпартызацыі будзе ў стане штодня выдаваць 800-1000 новых пашпартоў. Пакуль невядома, ці будзе пашпартызацыя мець абавязковы характар, а таму сьпяшацца абменьваць «савецкія» пашпарты ня варта. «Прэзідэнцкі» пашпарт адначасова будзе выкарыстоўвацца і як замежны. Праўда, на гэта спатрэбіцца час (па словах сп.Якубовіча - год ці два), бо для таго, каб пасьведчаньне асобы прызналі ў сьвеце, неабходна, каб было пашпартызавана каля 30% насельніцтва Беларусі.

Насуперак абяцаньням прэзідэнта (пад час сустрэчы ў жніўні з рабочымі «Азота») выдаваць новыя дакументы «па адной цане «для бедных» і па другой - «для багатых», кошт пашпарта будзе для ўсіх агульным - 30 тысячаў. Куды больш прыйдзецца заплаціць за фотаздымкі. Пры гэтым спатрэбяцца ня толькі чорна-белае, але і каляровае фота. Як паведаміў сп.Якубовіч, першыя пашпарты ў Горадні ва ўрачыстай абстаноўцы плануецца ўручыць найбольш паважаным жыхарам гораду -ветэранам і старажылам.

**Вітаўт РУДНІК.**

## САПСАВАЛІ НАСТРОЙ ГОСЬЦЮ

**Лідзкую зямлю нядаўна наведаў ведамы польскі літаратар, вялікі прыхільнік беларускай народнай песьні Зэмавіт Фядэцкі. Яго другі за гэты год візіт у Беларусь адбыўся разам з сястрою Барбарай і шваграм Янам, якія жывуць у Парыжы.**

Шмат чаго спадабалася гасьцём. Наша мілая гасьцінасьць і асабліва песьні ў выкананьні аднагодкаў Фядэцкіх з вёскі Феліксава Дашы і Івана Пелясаў. Але не абыйшлося, як той казаў, бяз лыжкі дзёгцю. Паехалі варшавянін і парыжане пакланіцца праху, свае продкаў у Мураванку, што ля чыгуначнай станцыі Скрыбава. Аказалася, з помніка зьнікла металічная шыльдачка, дзе пазначаны гады жыцьця і сьмерці іх бабулі. Вясной была, а ўвосень ня стала.

**С.АЛЕШКА.**

## ШТО ДОБРА ПАЛЯКУ, ТО БЕЛАРУСУ СЬМЕРЦЬ?

**Калі параўнаць дзейнасьць польскага і беларускага ўрадаў у галіне аўтамабілебудаваньня, то выявіцца поўная бездапаможнасьць «усенароднаабранага».**

Беларускія кіраўнікі вельмі ганарацца сваім посьпехам у прыцягненьні кампаніі «Форд» да вытворчасьці аўтамабіляў у горадзе Менску. Хаця посьпехі больш чым сьціплыя: «Форд» укладвае ўсяго 20 млн.даляраў, затое ўзамен мае 51% акцый сумеснага прадпрыемства, плюс абяцаньні ўстанавіць падаткавыя ільготы, якія па закону ніхто ў Беларусі атрымаць ня зможа. Дый аўтамабіляў будзе зьбірацца ўсяго некалькі тысячаў.

Цалкам інакш робіцца справы ў суседняй Польшчы.

Спачатку ў іх таксама ня ўсё атрымлівалася. У мінулым годзе магчымасьці польскіх аўтабудаўнікоў не ацаніла амерыканская «Джэнерал Мотарс». Затое напрыканцы 1995 году шэф паўднёвакарэйскай кампаніі «DAEWOO» У Чон Кім дамовіўся з польскім урадам аб пакупцы ўсяго Варшаўскага аўтазаводу. Інвестыцыі «DAEWOO» за 6 гадоў складуць 1 мільярд даляраў, пры гэтым ні адзін рабочы ня будзе звольнены (колькасьць працаўнікоў каля 10 тысяч чалавек). З таго часу завод перабудоўваецца літаральна на вачах, больш 500 працоўных прайшлі стажыроўку ў Карэі. Аднача̀сова адна̀віўся ўзровень выпуску аўтамабіляў «Паланэз» гэтага заводу. Іншыя магутнасьці занятыя выпускам карэйскіх мадэляў «Ціко», «Нэксія» і «Эспера», што ўжо складае 7% ад агульнапольскай вытворчасьці аўтамабіляў.

Шэф «DAEWOO» часова перанёс свой офіс у Варшаву, вывучае мясцовую сьпецыфіку і нацыльвае сваіх рабочых зрабіць немагчымае. Эўрапейскія фірмы, такія як «Фальксваген» і «Шкода», адчуваючы подых канкурэнта ў патыліцу, ствараюць сьпецыяльную стратэгію супрацьстаяньня карэйскаму канцэрну, польскім інжынерам і рабочым.

На гэтым фоне разьдзьмутая ў афіцыйных газетах рэкламная кампанія фордаўскага праекту ў Беларусі выглядае проста сьмешна.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## «ВЕРХНІ ГОРАД» - «СТАРЫ ЗАМАК»

**У менскай галерэі «Верхні горад» 18 кастрычніка адкрылася выстава жывапісу менскага мастака Алега Арлова.**

Алегу Арлову 27 гадоў. Сьпецыяльнай мастацкай адукацыі ён ня мае. Стаў мастаком у 1990 годзе, пасьля таго, як перажыў клінічную сьмерць. Менавіта тады яго жыцьцё цалкам зьмянілася. За 6 год творчай працы ён намаляваў больш за 500 работ, якія дэманстраваліся на пяці персанальных выставах. Частка твораў Алега Арлова знаходзіцца ва ўласных калекцыях і ў галерэях Беларусі, Расеі, Летувы, Францыі, Ірландыі, ЗША і Канады.

А гарадзенцы і госьці старажытнай Горадні змогуць пабачыць творы Алега Арлова на яго персанальнай выставе ў Старым замку , якая адкрыецца 20 лістапада. Гэтую імпрэзу ў Горадні ладзіць абласное грамадзкае аб'яднаньне «Новы век» і гарадзенскі фотаклуб «МІГ».

**В.НІКАНОВІЧ**

# MEMORIA

## ЧОРНЫ ДЗЕНЬ

**30 кастрычніка беларусы адзначаюць Дзень палітзьняволеных (Дзень памяці ахвяр ўсіх рэпрэсій). 59 гадоў таму тры кастрычніцкія дні -29-е, 30-е і 31-е кастрычніка 1937 году - сталі сапраўды чорнымі для беларускай навукі. У гэтыя дні на ўскрайку Менска сярод соцень іншых ахвяраў былі расстраляныя 10 навукоўцаў Беларускай акадэміі навук.**

Вось імёны гэтых пакутнікаў:

Антон Баліцкі, Якаў Бранштэйн, Міхаіл Касянкоў (Міхась Зарэцкі), Міхаіл Каўцэвіч, Майсей Кульбак, Сьцяпан Маргелаў, Іван Пятровіч (Янка Нёманскі), Рыгор Пратасеня, Яўген Успенскі, Ісак Харык. Гэта былі сталыя, таленавітыя, адданыя свайму народу навукоўцы.

Мы мусім згадаць іх як і мільёны іншых ахвяраў, бо сёньня ў Беларусі зноў зьявіліся палітычныя вязьні, зноў ёсьць палітычныя эмігранты, зноў адну палову насельніцтва залічылі ў ворагі народу, а другую вучаць пісаць даносы.

Сёньня ў нас зноў цкуюцца незалежныя газеты, судзяцца журналісты, разганяюцца навуковыя калектывы, хлусьня выдаецца за праўду, а фашызм за дэмакратыю. Сёньня да ГУЛАГу - адзін крок.

**Станіслаў СУДНІК.**

## «МНЕ НЯМА Ў ЧЫМ КАЯЦЦА!!!»



**Я, Харашэвіч Кастусь Іванавіч, з восені 1943 па восень 1944 году належаў да Саюзу беларускай моладзі (СБМ), нацыянальна-патрыятычнай арганізацыі, якая была заснавана 2 ліпеня 1943 г.**

Было мне на той час 16 год, і я зьяўляўся навучэнцам 3 курсу Маладэчанскай сярэдняй гандлёва-адміністрацыйнай школы. Заснаваў у 1942 годзе гэтую школу Барыс Кіт, вядомы вучоны ў галіне астранаўтыкі і касьмічных дасьледваньняў. У гэтай школе вучыліся юнакі і дзяўчаты з навакольных вёсак і мястэчак, а таксама з самога горада Маладэчна. На нашым курсе было каля 40 навучэнцаў, і калі з першага верасьня 1943 году пачаліся заняткі, мы даведаліся, што ў Менску адбылося ўтварэньне беларускай маладзёжнай арганізацыі (СБМ) і што жадаючыя могуць у яе ўступаць.

Увайшлі ледзь ня ўсім курсам, прытым добраахвотна, а не пад прымусам, як аб гэтым даводзілася чытаць у пракамуністычным друку. Паколькі арганізацыя стваралася ў школе, то ўсе мерапрыемствы -сходы, вечарыны, зборы - таксама праходзілі ў школе пасьля заняткаў, пераважна днём, паколькі з наступам цемнаты пачыналася каменданцкая гадзіна. Ухіл рабіўся на беларушчыну і незалежніцкія настроі. На зборах у класах, маршыроўках з песьнямі на плошчы, сустрэчах з сябрамі СБМ з іншых мястэчак, напрыклад, з Вілейкі, адчуваўся пэўны ўздым. Усё рабілася без прымусу.

Папулярнасьць СБМ сярод тагачаснай беларускай моладзі была значная, і арганізацыя імкліва пашыралася. Для нас, заходнебеларускіх юнакоў і дзяўчат, напэўна, значэньне мела тое, што мы ніколі ня мелі сваёй нацыянальнай вучнёўскай арганізацыі, бо ў час польскага панаваньня да 1939 году ў тагачасных школах нават мова беларуская ў апошнія гады не выкладалася як прадмет. Прага да беларушчыны, да нейкай патрыятычнай дзейнасьці, ды яшчэ ў юнацкарамантычным ўяўленьні, стварала ў нас атмасьферу братэрства і пэўнай самаадданасьці справе, што часам не дазваляла ўсьведамляць рэчаіснасьць ваеннай сітуацыі, нават ужо вясною 1944 году, калі з фронту даносіўся грукат гармат. Нам было весела і добра нешта рабіць, ладзіць самадзейнасьць, ставіць беларускія п'есы ў драматычным гуртку і, асабліва, сьпяваць беларускія песьні. Гарманічна спалучалася ўсё гэта і з вучобай у «Гандлёвай школе», дзе амаль усе прадметы выкладаліся на беларускай мове, большасьць настаўнікаў былі выхаванцамі беларускіх настаўніцкіх гімназій і семінарый, а таксама Віленскага ўніверсітэту імя Стэфана Баторыя, які скончыў і сам Барыс Кіт.

Нямецкія ўлады былі нават занепакоеныя такім праяўленьнем нашай актыўнасьці, а Барыс Уладзіміравіч ледзь не паплаціўся жыцьцём за ўсталяваньне такой школы, дзе назва «Гандлёва-адміністрацыйная» была толькі шырмай, а па-сутнасьці гэты самаадданы асьветніцкай справе чалавек праводзіў праграмы гімназіі і нават больш.

Але затое мы атрымоўвалі і грунтоўныя на той час веды, сьведчаньнем чаго было і тое, што з пасьведчаньнем аб заканчэньні «гандлёўкі» нам удавалася паступаць пазьней у савецкія вышэйшыя навучальныя ўстановы. Іншая справа, што далёка ня ўсім давялося іх скончыць.

Ідэі СБМ мелі ўплыў і на пасьляваеннае патрыятычнае падпольле, якое ў знак пратэсту супраць кампартыйнага чыноўніцтва і гвалтоўнай русіфікацыі народнай асьветы фармавалася сярод студэнцкай моладзі ў асобныых гарадах і мястэчках, пераважна былой Заходняй Беларусі (педінстытутах і педвучэльнях асабліва).

Пасьля вайны зьведалі рэпрэсіі ў той ці іншай ступені амаль усе вучні і настаўнікі тагачасных школ і сябры СБМ. Многія былі сасланыя ў лагеры, астатніх рабілі грамадзянамі другога гатунку, пазбаўляючы асобных правоў.

**(Працяг будзе)**

## «... ТОЛЬКІ ДУМ НЕ СКУЕШ ЛАНЦУГАМІ!»

**Прачытаўшы ў шэразе незалежных выданьняў, у тым ліку і ў «ПАГОНІ», пра сумную гісторыю паэта Славаміра Адамовіча, які за сваю літаратурную дзейнасьць і любоў да Бацькаўшчыны трапіў у славутую менскую турму «амерыканку», сьледчы ізалятар КДБ, я ўзгадаў верш беларускага паэта Уладзімера Клішэвіча «Менская турма». Гэты верш напісаны ім у выгнаньні ў ЗША ў 1957 годзе, быў ён прысьвечаны чарговай гадавіне Кастрычніцкага перавароту. Раз у Беларусі ён малаведамы, лічу мэтазгодным яго нагадаць:**

**МЕНСКАЯ ТУРМА**

*Пад дзікі крык нямых разлучын*
*Там Цішка Гартны быў замучан.*

*Таўклі чырвоным каты ботам*
*Алеся Звонака й Чарота.*

*Спаткаў таксама лёс свой чорны*
*За кратамі паэт Кляшторны.*

*Далёкі Усход, нямы і дзікі,*
*Закрыў зямлёй шкілет Хадыкі.*

*Як языком, зьмяла завея*
*Александровіча Андрэя.*

*Даношчык Кучар быў праворны:*
*Прапаў Зарэцкі, спасься Чорны.*

*За недагляд якогась слова,*
*Душыў забойца Маракова.*

*Жыцьцё турмы адведаў кожны:*
*Там быў Знаёмы і Дарожны.*

*Сярод нявольнікаў зямных*
*Прысеў Сымон Баранавых.*

*Калі ўжо секлі з-за пляча,*
*Прывалаклі й Галавача.*

*Прыйшлося й мне ў юнацкім ранку*
*Паспрабаваць «Амерыканку».*

У часы галоснасьці й перабудовы шмат прыходзілася чуць апраўданьняў з боку КДБ, які не жадаў прызнаць сваю віну й пакаяцца за генацыд беларускага народу ў 20-50 гадох. Кіраўнікі гэтай, на маю думку, заўжды антыбеларускай арганізацыі ўвесь час паўтаралі: «Мы ўжо ня тыя, што былі раней, таму ніякай віны за сабой не адчуваем...» Але падзеі апошніх часоў: зьбіцьцё дэпутатаў Вярхоўнага Савету, правакацыі супраць дэманстрантаў 26 красавіка, лёс Адамовіча, Рамашэўскага, Сіўчыка, Хадыкі, татальнае сачэньне за лідарамі беларускіх дэмакратычных партыяў, антызаконны ўціск незалежных сродкаў масавай інфамрацыі, выгнаньне Пазьняка і Навумчыка, сьведчаць аб адваротным. Вы тыя самыя! Служэньне Сатане і Мамоне вам даражэй за выкананьне Асноўнага Закону краіны - Канстытуцыі... Таму ахвяры Курапатаў, напэўна, няхутка дачакаюцца абяцанага Кебічам помніка... А злавіць раскрадальнікаў магілаў у Курапатах няма часу, бо трэба змагацца з тымі, хто «мяшае сялянам праводзіць бітву за ўраджай»...

Усё гэта было. Гісторыя паўтараецца: вяртаецца сьвята «Великого Октября», беларускія школы зачыняюцца, а беларускія паэты настала прапісваюцца ў турмах.

Няма ўжо Уладзімера Клішэвіча, але верш яго гучыць сучасна! Пакуль парушаецца Канстытуцыя, кожны сьведамы беларус мае шанец наведаць «амерыканку».

**Уладзімір ВЯРХОВІЧ.**



## ГАРАДЗЕНСКІ ЎІК-ЭНД

**ГАРАДЗЕНСКІ АБЛАСНЫ ДРАМАТЫЧНЫ ТЭАТР:** 25 кастрычніка - «Тытул» -19.00; 26 кастрычніка - «Камедыя пра нешчаслівага селяніна, яго жонку Маланку, жыда Давіда і чорта, які згубіў сэнс існаваньня» -19.00; 27 кастрычніка - «Сіняя птушка» - 12.00 (для дзяцей); «Ход канём» - 19.00.

**АБЛАСНЫ ТЭАТР ЛЯЛЕК:** 25 кастрычніка - «Як здароўе?» (для дарослых) -19.00; 26 кастрычніка - «Тры парсючкі» - 12.00; 27 кастрычніка -«Муметролі» - 12.00.

**АБЛАСНЫ ПАЛАЦ ДЗІЦЯЧА-ЮНАЦКАЙ ТВОРЧАСЬЦІ** (Новы парк): 27 кастрычніка - абласны маладзёжны турнір па «Брэйн-рынгу» - 10.30.

**НОВЫ ЗАМАК:** Працягвае працу мастацкая выстава «Нацюрморт» мясцовых мастакоў канца XIX-XX стагоддзяў.

**ВЫСТАВАЧНАЯ ЗАЛА АБЛАСНОГА АДДЗЯЛЕНЬНЯ САЮЗУ МАСТАКОЎ БЕЛАРУСІ:** Запрашае наведаць новую мастацкую выставу «Восень'96» сучасных гарадзенскіх мастакоў. Выстава нядаўна дэманстравалася ў Палацы мастацтва ў Менску і зараз упершыню паказана ў Горадні.

**ГАЛЕРЭЯ «У МАЙСТРА»:** Да 29 кастрычніка працуе мастацкая выстава «Лікі восені». З 30 кастрычніка запрашаем наведаць персанальную выставу Пятра Янушкевіча «ЛІК-БЕЗ».

**АБЛАСНАЯ НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНАЯ БІБЛІЯТЭКА ІМЯ Я.КАРСКАГА** (малая зала): 30 кастрычніка - прэзентацыя кнігі Валерыя Чарапіцы «Преодоление времени» і «Польское национальное движение в Беларуси в последней трети 19 века». Пачатак у 15 гадзін.

**КІНАТЭАТР «ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА»:** 30 кастрычніка кінаклуб «Ракурс» -«Папяровая поўня» (ЗША) - 19.00.

А таксама «вертыкаль» запрашае 26 кастрычніка на Усебеларускі суботнік...

**В.НІКАНОВІЧ.**

## КРЫЖАВАНКА



*Пераклад́зі на беларускую мову*

**Па гарызанталі:** 6.Перила. 9.Мошенник, плут. 10.Тесьма. 11.Старуха. 12.Рубашка. 14.Ответ. 16.Нарост. 17.Цвет. 21.Сказка. 22.Лоханка. 23.Подорожник (бот.). 24.Уличка. 25.Влияние. 28.Праздник. 31.Замечание. 32.Решётка, ограда. 34.Глухарь. 35.Осокорь (бот.). 37.Скиталец. 38.Печатник. 39.Шатание.

**Па вертыкалі:** 1.Предмет полуторного размера. 2.Праздник (престольный). 3.Искренность. 4.Раздор. 5.Налим. 7.Маслёнок. 8.Мусор. 13.Надстройка. 15.Красавица. 18.Лапша. 19.Корыто. 20.Лист (бумаги). 26.Проказник. 27.Угасание. 29.Кабан. 30.Оттепель. 32.Четверть, фаза (Луны). 33.Пест. 36.Положение, состояние.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗЬМЕШЧАНУЮ Ў ПАПЯРЭДНІМ НУМАРЫ:**

**Па гарызанталі:** 5.Ападкі. 6.Бульба. 8.Бранзалет. 11.Лішак. 14.Адлік. 15.Зародак. 16.Прагал. 17.Засень. 20.Маланка. 22.Байка. 23.Звада. 26.Выканаўца. 27.Маёнтак. 28.Істужка.

**Па вертыкалі:** 1.Бакавіна. 2.Скарб. 3.Бусел. 4.Баравіна. 7.Асярод. 9.Вандроўка. 10.Адзінства. 12.Заранак. 13.Заранка. 18.Лазіна. 19.Парабак. 21.Адзнака. 24.Дыван. 25.Уціск.

## НАШ КАЛЯНДАР

**25 кастрычніка**

**1884 г.** У Новым Двары (Сакольскі павет) нарадзіўся Франьцішак Грынкевіч, грамадзкі і рэлігійны дзеяч, педагог. Зьяўляўся першым кіраўніком Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі, выкладаў у школе назарэтанак (брыгіцкі кляштар).

**27 кастрычніка**



**1430 г.** У Троках памёр Вітаўт - вялікі князь літоўскі, славуты ваяр, цэнтралізатар дзяржавы.

**28 кастрычніка**

**1845 г.** У Горадні нарадзіўся Зыгмунт Урублеўскі, знакаміты фізік, удзельнік вызвольнага паўстаньня 1863 г.

**29 кастрычніка**

**1903 г.** У Міры нарадзіўся Аляксандр Ільінскі, ведамы тэатральны артыст.

**1937 г.** Расстраляны Хацкель Дунец, беларуска-яўрэйскі пісьменьнік, крытык, публіцыст. Паходзіў з Слоніма.

**1938 г.** У вёсцы Малая Кракотка (Слонімскі раён) нарадзіўся Янка Саламевіч, вядомы сучасны літаратуразнавец, фальклярыст, бібліёграф, перакладчык.

**30 кастрычніка**

**1926 г.** Нарадзіўся Аляксандр Ліпень (спаўняецца 70 гадоў), самадзейны мастак, народны майстар. Жыве і працуе ў Горадні.

**1937 г.** Быў расстраляны Янка Нёманскі (Іван Пятровіч), выбітны публіцыст, вучоны-эканаміст, акадэмік. Паходзіў з Шчорсаў (Наваградзкі раён).

**1988 г.** У Менску каля Усходніх могілак і ў Курапатах адбыўся мітынг-рэквіем «Дзяды».

**31 кастрычніка**



**1992 г.** У Менску памёр Міхась Ткачоў, выбітны гісторык і археолаг, грамадзкі дзеяч. З 1978 па 1989 год жыў і працаваў у Горадні.

## КУЛЬТУРА

# «ГАЛЕРЭЯ ТЫЗЕНГАЎЗА» ІМКНЕЦЦА «НА ПАВЕРХНЮ»

**Пасьля доўгіх тэхнічных замінак, на мінулым тыдні нарэшце гасьцінна адчыніла свае дзьверы «Галерэя Тызенгаўза». Гэта другая, пасьля галерэі «У майстра», прыватная мастацкая пляцоўка, якая мае намер заняцца ладжаньнем выстаў.**



На прэзентацыі выступоўцы, на чале з старшынём гарвыканкаму Анатолем Пашкевічам, шмат казалі пра разьвіцьцё і персьпектывы выяўленчага мастацтва ў Горадні. Але тое самае мы чулі некалі на адкрыцьці галерэі «Мадэрн-арт» і «Гранд-залы», якія ціхенька адыйшлі ў нябыт. Зрэшты, ня будзем згадваць сумнае.

«Галерэя Тызенгаўза» адкрылася выставай «Сон травы» Аляксандра Ларыёнава, вядомага сваёй прыхільнасьцю да пейзажыстыкі і фларыстыкі. Акуратна выпісаныя сьцяблінкі, кветачкі, дрэўцы цешаць вока самазадаволеных мяшчан, «новых беларусаў», але бянтэжаць амбітных мастакоў, якія спрабуюць разьвязаць больш значныя эстэтычныя праблемы. Тым ня менш, сама атмасьфера галерэі пакідае добрае ўражаньне.

Будзем спадзявацца, што калі «Галерэя Тызенгаўза» здолее выбрацца «на паверхню», пра што мараць ейныя гаспадары, дык мы сапраўды адчуем значны зрух у мастацкім жыцьці Горадні.

**Людвік САРОКА.**
**Фота У.УЛАДАСЕВІЧА.**
**НА ЗДЫМКУ: На адкрыцьці выставы.**

# ПОСЬПЕХ ПОЛЬСКІХ АКТОРАЎ

**У мінулую пятніцу ў памяшканьні Гарадзенскага абласнога драматычнага тэатру з посьпехам прайшоў сьпектакль паводле п'есы вядомай польскай пісьменьніцы Габрыэлі Запольскай «Іх чацьвёра».**

Сьпектакль у Горадню прывёз тэатр імя Багуслаўскага з польскага гораду Каліш паводле запрашэньня Гарадзенскана Консуляту і Саюзу палякаў Беларусі.

Рэжысёр Ян Бухвальд, каб узмацніць сцэнічны эфект і асучасьніць п'есу, дзея якой адбываецца ў XIX стагоддзі, перанёс акцыю ў міжваенны перыяд. У аснову твору пакладзены звычайны сямейна-бытавы канфлікт, накшталт любоўнага трохкутніка-чатырохкутніка з уласьцівай рэўнасьцю, падманам, прагай заваloданьня чужымі грашыма.

Аднак, публіку і прафесіяналаў уразілі ня столькі сюжэтныя калізіі, колькі захапляльная ігра польскіх акцёраў: папулярнага Цэзарэга Мараўскага, Агнешкі Дзянцельскай, Леха Вежгоўскага, Эвы Кіблер, Крыстыны Гарадыцкай, Монікі Шаляты, Міраславы Сапы.

Поўная зала актыўна рэагавала на дасьціпны гумар акцёраў, шчодра ўзнагароджвала іх апладысьментамі, а пасьля заканчэньня сьпектаклю адарыла морам кветак і бурнымі авацыямі.

**Людвік ЛІЦЬВІНОВІЧ.**

# СОНЦА Ў САЛАМЯНЫМ КАПЕЛЮШЫ

**Нядаўна ў абласным Навукова-метадычным цэнтры народнай творчасьці адкрылася супольная выстава майстроў-саломапляцельшчыкаў Гарадзеншчыны.**



Капелюшы, куфэркі, мастацкія кампазіцыі з саломкі ўражваюць сваёй вытанчанасьцю і складанасьцю выкананьня. Больш таго, яны літаральна насычаны сонцам. Ствараецца ўражаньне, што ўсе экспанаты стварыў дабрадушны чараўнік з народнай казкі. На самой жа справе саламяныя цуды - праца рук майстроў з розных куткоў Гарадзеншчыны. Марыя Глаўніцкая і Алена Вербаль з Шчучыншчыны, Лідзія Каскевіч з Мастоў (на здымку), Людміла Ненартовіч з Дзятлаўшчыны, Любоў Блохава, Тамара Блудава і Марыя Суста з Горадні ды інш. - усе яны па-свойму бачаць акаляючы сьвет. Але разам рэпрэзентуюць слаўную народную традыцыю, адраджаюць папулярнае айчыннае рамяство, заадно й каштоўны від мастацтва.

Варта дадаць, што экспазіцыя ў Доме народнай творчасьці, зладжаная працаўнікамі аддзела выяўленчага мастацтва і курсаў павышэньня кваліфікацыі работнікаў культуры АНМЦ - гэта своеасаблівы вынік больш як пяцігадовай працы нашых народных майстроў.

**Ігар ГАНДЛЕЎСКІ.**

# ГАРАСКОП НА ТЫДЗЕНЬ

**БАРАН (21.3-20.4)** Удалы тыдзень, хоць працы будзе звыш меры. У вольныя хвіліны хадзі на шпацыр, гэта будзе на карысьць здароўю ці каханьню.

**БЫК (21.4-20.5)** З выняткам суботы цалкам пасьпяховы тыдзень. Поўня можа абудзіць эмоцыі, Твае і блізкіх і давесьці да спрэчкі. А ўтаймуе зваду нядзельны абед. Шанцаваньне ў працы і добрае здароўе.

**БЛІЗЬНЯТЫ (21.5-21.6)** Бліжэйшымі днямі самотныя Блізьняты могуць пазнаць некага блізкага. Калі гэта будзе Дзева - пастарайся затрымаць даўжэй. У працы час падсумаваньня.

**РАК (22.6-22.7)** Шчасьлівыя дні для ўсіх Ракаў. Посьпехі, прызнаньне шэфа, спрыяньне матэрыяльнае... Але, ні ў якім разе не сьпяшайся. Папытай рады ў дасьведчаных Шаляў.

**ЛЕЎ (23.7-23.8)** Бліжэйшымі днямі сям'я стане табе найдаражэйшай. Захочацца прысьвяціць любові кожную хвілю. Госьці выходнымі днямі могуць збунтаваць гэтую ідылію, але ўсё абыдзецца.

**ДЗЕВА (24.8-23.9)** З выняткам панядзелку ўдалы тыдзень. Паробіш цяжкія справы. З дапамогаю пасьпяшае нехта з-пад знаку Блізьнятаў. Адудзяч свайму дабрачынцу.

**ШАЛІ (24.9-23.10)** Няёмкія дні для звыкла ўладкаваных Шаляў. Скінь гэта на ворагаў, на расклад планет і захоўвай усьмешку, хоць сэрца рве боль... На шчасьце, добрае здароўе.

**СКАРПІЁН (24.10-22.11)** Бадай што найлепшы тыдзень у годзе. Сонца дасьць Табе моцы, а Меркуры - посьпехі ў працы. Зацікаўся мастацтвам, гэта можа спатрэбіцца на будучыню. Паразуменьне ў каханьні.

**СТРАЛЕЦ (23.11-21.12)** Бліжэйшымі днямі нечаканае разьвязваньне спраў, якія не давалі Табе спакою. Але рана сьвяткаваць перамогу. У працы яшчэ будуць складанасьці. Мецімеш пэўную дапамогу Быка.

**КАЗЯРОГ (22.12-20.1)** Гэты тыдзень можаш вылучыцца на вытворчасьці. Калі іншыя будуць «біць у хамут», Ты нясьпешна і ёмка навядзеш належны парадак: дасягнеш посьпехаў.

**ВАДАЛЕЙ (21.1-19.2)** Твая ўвага засяродзіцца на сям'і. І вельмі добра. Але не глядзі надта шмат тэлевізіі. Лепей выберыся на шпацыр па навакольлі.

**РЫБЫ (20.2-20.3)** Істотныя дні, надзвычай карысныя ў Тваёй працы. Паразуменьне з партнёрам Цябе акрыліць. Аддайся пасьля радасьцям сямейнага жыцьця. Асабліва ў суботу, пры Поўні, будзе люба.

# КІНААФІША ГОРАДНІ



**«ГРОДНА»**: 25,26,27 кастрычніка - «Па мянушцы Рына» - 10.00, 11.40, 13,30, 15.20, 17.10, 19.10 і 21.00. ВІДЭА: 25 кастрычніка - «Назад у цемру» (жахі) - 10.00, 14,00, 16.00, 20.00. «Сакрэтныя матэрыялы» (26 серыя) - 12.00, 18.00. 26,27 кастрычніка - «Жах на вуліцы Вязаў-6» - 10.00, 14.00, 16.00, 20.00. «Сакрэтныя матэрыялы (17 серыя) - 12.00, 18.00.

**«КАСТРЫЧНІК»**: 25 кастрычніка - «Разьлік у Рыа» (баявік) - 15.00, 16.50, 18.40, 20.30. «Унесеныя акіянам» - 10.00 (ільготны) - 11.50, 13.40, 15.30. «Воўчая кроў» - 15.20, 17.10. «Усемагутнасьць» (эротыка) - 19.10, 21.00. ВІДЭА: «Вулічны баец» (ч.1) - 15.00. «Вяртаньне вулічнага байца» - 16.50. «Пагоня за сонцам» - 18.40, 20.30. Кожную сераду і нядзелю - Школьная дыскатэка - 18.30. НАЧНЫ КЛУБ: штодзённа музычна-забаўляльная праграма - 22.00 (панядзелак і аўторак - выходныя).

**«ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА»** - 25-28 кастрычніка - «Ад змроку да сьвітаньня» -12.10, 14.20, 16.30, 18.40, 20.50. «У пошуках прыгод» - 11.30, 13.20, 15.10, 18.40, 20.20. «Эратычны раман» (для дарослых) - 17.00.

**«КОСМАС»**: 25 кастрычніка - «Вяртаньне дыназаўра» - 13.40. «Спакушаная сном» (для дарослых) - 15.30, 17.20, 19.10, 21.00 (падоўжаны). ВІДЭА: «Хмарачос» (баявік) - 12.30, 14.30, 16.30, 20.30. «Пераблытанае лета» (камедыя) - 18.30.

**імя ПУШКІНА**: 25 кастрычніка - «Ад змроку да сьвітаньня» (баявік) -10.00, 11.50, 13.40, 17.20. ФІЛЬМ - ДЗЕЦЯМ: «Маска» (камедыя) -15.30. Дыскатэка - 19.00, 21.00.

## СПОРТ

# РЫБАК ЗАСТАЎСЯ «СУХІМ»

**«Павіншаваць можна з перамогай, але не з гульнёй», - так пракаментаваў вынік сустрэчы «Нёман»-»Дынама» (Берасьце) вядомы ў мінулым у Горадні футбаліст Уладзімір Кураш.**

Падзеі на футбольным полі дакладна адпавядалі згаданаму вышэй каментару. Каля паўтысячы (усяго!) гледачоў на працягу большай паловы гульні назіралі з-за ўстаноўленых нядаўна вакол поля кратаў за шэрай, манатоннай гульнёй. Баявой і больш-менш відавочнай была толькі сярэдзіна першага тайму. На 10-й хвіліне пасам з правага флангу партнёры вывялі сам-насам з брамнікам гасьцей Паўла Пузыну, і паўабаронца «Нёмана» свой шанц скарыстаў. Шанц падвоіць лік меў Алег Радушка, але брамнік «Дынама» нагамі здолеў перашкодзіць мячу траіць у сетку. Як заўсёды, востра гуляў Віктар Юйко. Аднойчы пасьля яго навесу небясьпечна біў Андрэй Сярогін, але мяч праляцеў вышэй перакладзіны.

Пасьля перапынку абедзьве каманды як бы згубілі жаданьне гуляць. За 45 хвілінаў толькі двойчы падабенства хваляваньня прайшло па трыбунах. Спачатку «шалёны» удар берасьцейца Уладзіміра Воранава скалатнуў перакладзіну над галавой Альберта Рыбака, а затым свайго брамніка «падстрахаваў» Анатоль Драчылоўскі, які стаў на шляху мяча, ляцеўшага ў безабаронную браму. У актыў жа «Нёмана» у другім тайме занесьці няма чаго. Нават удзел у гульні 3-х нападаючых (Сярогін, Барысейка, Савань) не дадаў гарадзенскім атакам вастрыні.

Перамога з лікам 1:0 усё роўна не дазваляе пакуль гарадзенскім трэнерам спаць спакойна. 28 кастрычніка ў Бабруйску каманду чакае «Белшына», а затым тры «хатнія» сустрэчы з «Дынама-93», «Ведрычам» і ФК «Маладэчна». Кожнае згубленае ў гэтых гульнях ачко можа пакінуць Горадню на нейкі час без «вялікага футболу».

***

23.10. «Днепр Магілёў» - «Абутнік Ліда» - 1:1

Надзвычай важная для «абутнікоў» нічыя, тым ня менш, адсунула каманду з 14-га на 15-е месца.

**Вітаўт РУДНІК.**

# СПРЫНТ

Барцы гарадзенскага «Універсітэту-ШВСМ» ня здолелі прабіцца ў паўфінал Кубку Еўропы па грэка-рымскай барацьбе. У адказнай сустрэчы ў Маскве, як і два тыдні таму ў Горадні, нашая каманда саступіла з тым жа лікам 4-6. Як і мінулы раз, свае паядынкі выйгралі Аляксандр Белякоўскі (62 кг), Валеры Ціленьць (82 кг) і Анатоль Федарэнка (100 кг). У звышцяжкай катэгорыі «Масквіч» свайго атлета ня выставіў.

* * *

Дзьве пераканаўчыя перамогі над сапернiцамі з Гомеля атрымалі баскетбалісткі гарадзенскай «Алімпіі» (98:37 і 95:39). У абедзьвюх сустрэчах найбольш выніковай была Траско (жонка вядомага ў Горадні футбаліста Дзьмітрыя Траско), набраўшая адпаведна 24 і 19 ачкоў.

* * *

Учора стартавала жаночае першынство Беларусі па валейболе. У ліку 12 каманд дзьве дружыны з Горадні - «Нёман» і Сьпецыялізаваная дзіцяча-юнацкая спартыўная школа алімпійскага рэзерву (СДЮСШАР).

* * *

Гандбалісты мацнейшага беларускага гандбольнага СКА ўпершыню трапілі ў прэстыжную Лігу чэмпіёнаў, перамогшы па выніках дзьвюх сустрэч аўстрыйскі «Лінц». 23 кастрычніка ў першай сустрэчы чэмпіянату краіны гандбалісты Горадні перамаглі 29-28 каманду наваполацкага ўніверсітэту.

* * *

Хакеісты гарадзенскага «Нёмана» у чарговай гульні першынства краіны з лікам ...згулялі ўнічыю 2:2 з менскім «Юнацтвам» і займаюць пакуль у турнірнай табліцы трэцяе месца. Дарэчы, дваццаць другога кастрычніка рашэньнем гарадзенскай "вертыкалі" "Нёман" перастаў быць самастойным прафесійным клубам і быў перададзены пад кіраўніцтва абласной Управы па фізічнай культуры, спорту і турызму.

**Вітаўт РУДНІК.**

## КРЫМІНАЛ

### ХТО ЗАБІЎ? СЬВЕДКІ МАЎЧАЦЬ...

**У мінулую суботу ў Горадні адбылося пахаваньне 18-гадовага юнака. Двое сяброў нябожчыка з нажавымі ранамі трапілі ў шпіталь.**

Трагедыя адбылася ля ПТВ-74, што на вуліцы Сухамбаева (інтэрнат вучэльні, у якім жывуць амаль адныя дзяўчынкі, здаўна прыцягваў да сябе «дон жуанаў» з акругі, якія да глыбокай ночы бавяць тут час у пошуках каханьня і прыгодаў).

...Невядома, чаго больш хацелася тром юнакам, якія той ноччу сядзелі на лаве ля вучэльні - ці паліць, ці проста даць выйсьце эмоцыям. У адказ на адмову двух прахожых даць цыгарэту, гэтая троіца распачала бойку. У адказ адзін з прахожых ужыў нож. Для 18-гадовага Б. удар зьнізу ў жывот стаўся сьмяротным - нож на 1,5-2 сантыметры закрануў сэрца. Нажавыя раны атрымалі і яго сябры, якія былі зьмешчаныя ў шпіталь.

Па некаторых дадзеных, абодва параненыя юнакі ведаюць, хто забіў іх сябра, аднак назваць канкрэтныя імёны пакуль адмаўляюцца.

### КАГО РЫХТУЕ УНІВЕРСІТЭТ?

**Трое злачынцаў, пагражаючы цацачным пісталетам, у раёне гаражоў ля камбінату будаўнічых матэрыялаў напалі на ўладальніка «Мэрсэдэса».**

Кінуты ў багажнік уласнай іншамаркі, небарака-кіроўца па дарозе здолеў выскачыць з машыны і затэлефанаваць у міліцыю. Праз некаторы час злачынцаў затрымалі ў Граньдзічах, дзе яны спрабавалі схаваць «Мэрсэдэс» у гаражы. У складзе злачыннай групы знаходзіўся, а магчыма, і кіраваў ёю, студэнт гарадзенскага ўніверсітэту.

Паводле словаў намесьніка начальніка абласной управы ўнутраных справаў Валерыя Аўрамчыка, навучэнцы гэтай гарадзенскай ВНУ усё часьцей становяцца на злачынны шлях. Што датычыць няўдалага ўгоншчыка, дык на імя рэктара ўніверсітэту ўжо падрыхтавана прадстаўленьне аб выключэньні гэтага студэнта з універсітэту.

### КРЫВАВЫЯ «ПАЦАЛУНКІ»

Адразу чатыры аўтамабілі сутыкнуліся ў выніку аварыі ля вёскі Баркі Лідзкага раёну. 15 кастрычніка а палове 6-й раніцы пры моцным тумане ззаду ў «Камаз» ударыўся «Фольксваген». Гэтую іншамарку, у сваю чаргу, «пацалаваў» «Опель», а ў той урэзаўся «Мэрсэдэс». Вынік аварыі сумны - тры трупы. Яшчэ адна жанчына з пераломам шыйных пазванкоў трапіла ў шпіталь.

**В.ДРЭМА.**

ПАГОНЯ
ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 597
Падпісны індэкс 63124
Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская,1
(0152) 72-35-61, 72-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-72-37-14 (23.00-10.00)
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасьць за падбор і дакладнасьць фактаў. Іх меркаваньні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі.
Адказнасьць за зьмест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня: 230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 3545 Наклад 11790
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 24.10.96
Рэдактар Мікола Маркевіч